Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя [illegible] — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня».

ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год I. Вільня, Аўторак, 15 ліпня 1919 г. № 45.

## Зямельная рэформа у Польшчы.

Як усім ведама з газэт, Польскі Сойм цяпер разглядае пытаньне аб зямельнай рэформе.

Рэформа гэта, калі яна будзе праведзена ў жыцьцё, пераробіць цяперашнюю панскую Польшчу ў „мужыцкую“, ці, як кажуць у Польшчы „хлопскую“, зьнішчожыўшы ня толькі вялікія маёнткі, але да вядомай ступені і сярэднія.

Беззямельныя і малазямельныя „хлопы“ дастануць „панскія“ землі не дарма, а за выкуп, які гарантуе гасударства.

Калі рэформа пройдзе ў жыцьцё, калі польскі „хлоп“, пасьля многавекавой няволі, у якой ён знайходзіўся глаўным чынам ад беззямельля ці малазямельля, дастане зямельку ад польскага пана, то гэта будзе вялікай пабедай для Польшчы, каторую ў Беларусі, дый ня толькі ў Беларусі, а мусіць што і ўва ўсім сьвеце лічылі да апошняга часу панскай, бо „паны“ нідзе, здаецца ня маюць такой сілы, як у Польшчы. У нас дэмакратычны і навет соцыялістычны век „панскасьць“ вельмі прашкаджае Польшчы, каторай баяцца ня толькі соцыалісты, але і нагул усе шчырыя дэмакраты. Соцыялістычныя і праўдзіва дэмакратычныя групы польскага сойму аказаліся добрымі палітыкамі, паставіўшы зямельнае пытаньне адным з першых. Яны зразумелі, што да тэй пары, пакуль у Польшчы зямля, капітал, а за імі і ўлада знайходзяцца ў руках паноў, слаўныя бацькі і дзяды каторых яшчэ нядаўна рабілі страшэнны гвалт і зьдзек над „хлопамі“, да тэй пары ўсе суседнія з Польшчай дэмакратычныя народы будуць глядзець на Польшчу, як „хлоп“ на пана, варожа, баючыся, як-бы не папасьціся ў панскую няволю.

Асабліва мелі чаго баяцца панскай Польшчы ў Беларусі і Літве, каторыя густа ўсеены маёнткамі польскіх паноў, маёнткамі, каторыя ў некаторых здарэньнях па сваім абшарам даходзяць да вялічыні малых гасударстваў.

Гэта ўсё — рэзультат палітыкі польскіх каралёў, шчодра раздаваўшых пасьля Люблінскай уніі, злучыўшай Беларусь і Літву ў вадно гасударства з Польшчай, беларускія і літоўскія землі польскім паном.

І вось цяпер, калі польская зямельная рэформа адбярэ зямлю ў паноў і перадасьць яе ў рукі польскага працоўнага народу, мы ня можам не парадавацца супольна з польскімі „хлопамі“, што прыйходзіць канец панскаму зьдзеку над імі і панскаму кіраваньню Польшчай.

Калі зямельная рэформа пройдзе ў Польшчы, то і ў Беларусі лягчэй будзе справіцца з панамі польскімі і іншымі магнатамі, што даставалі духоўную, матэрыяльную і палітычную паддзержку ад сваіх родных братоў — паноў Польшчы. Польскі анэксыанізм, каторы ў цяперашнім часе рупіцца захапіць Беларусь і Літву і далучыць іх тым ці іншым спосабам да Польшчы, корміцца найбалей інтарэсамі польскіх паноў, што жадаюць прылучэньня сваіх маёнткаў у Беларусі і Літве да маёнткаў панскай Польшчы. Зямельная рэформа ў Польшчы павінна аслабіць іх анэксыаністскую акцыю.

Але нас усё-ж вельмі цікавіць тое, што польскі Сойм устанавіўшы дзеля этнаграфічнай Польшчы вялічыню маёнткаў ад 60 да 180 гэктараў (до 300 маргоў), для „ўсходніх зямель“ павысіў вялічыню маёнткаў до 400 гэктараў (да 700 маргоў), На што гэта зроблена? Чаму гэта прывілегія дадзена яснавяльможным паном „усходніх зямель?“.

Закон там аб'ясьняе гэту міласьць паном: „дзе будзе вымагаць інтэрэс (польскага) гасударства“,

Не, паночкі, польскія дэпутаты левага боку! Вы робіце вялікую абмылку, пакідаючы паном „усходніх зямель, г. зн. Літвы і Беларусі, па 700 маргоў зямлі. Якія гэта „*інтарэсы польскага гасударства*“. Якія гэта „*усходнія землі*“?

Пара перастаць бачыць інтарэсы Польскага гасударства за граніцамі этнаграфічнай Польшчы. Пара адвыкнуць называць і лічыць Беларусь і Літву „ўсходнімі землямі“ Польшчы. А то мы-беларуская дэмакрацыя — перастанем верыць вам у ваш дэмакратызм, які, як мы бачым, у адносінах да нас схіляецца ў бок прыязнасьці інтарэсам нашых ворагаў—польскіх і іншых магнатаў у Беларусі.

Так сама нас не здаволявае і тое, што такая важная рэформа, як зямельная, прайходзіць у Польскім Сойме большасьцю толькі аднаго голасу (183 проціў 182). На якім зыбкім грунце стаяць у Польшчы такія важныя пытаньні, як зямельнае.

Мы баемося, што наш земляроб-беларус, даведаўшыся аб гэтым, не адрачэцца ад свайго недаверыя к Польшчы, бо панства ў ёй яшчэ вельмі дужое, а дэмакрацыя пераважавае панства толькі адным голасам, да і дэмакрацыя польская ў некаторых здарэньнях яшчэ трымаецца за хвалды эндэцкага фраку.

Дзеля прыязных адносін польскай дэмакрацыі з польскімі панамі ў Беларусі мы таксама ня пэўны, што тая „панская“ зямля, каторая дзякуючы аднаму голасу, мелаб дастацца за выкуп сялянам у Беларусі, дасталасяб сялянам з Беларусі, а ня з Польшчы, бо ўжо чуваць многія галасы, што калі й даваць зямлю сялянам, то трэба даваць яе сялянам „сваім“, польскім, прывезеным з Польшчы, бо быццам трэба робіць польскую каленізацыю ў Беларусі.

**Гарро.**

# ЗМАГАНЬНЕ ЗА ШКОЛУ.

У той час, калі мы дамагаемся сваіх беларускіх школ, нам адказываюць, што сяляне самі такіх ня хочуць, што яны просяць адчыняць у іх школы польскія або расейскія.

Праўда, знаходзяцца такія ачмучаныя авечкі, каторыя не прызнаюць нацыянальных школ, а часьцей шмат не раздумываючы пасылаюць у такія школы, якія паны, няпрошаныя апякуны, ім адчыняюць, не пратэстуючы проці згвалтаваньня першага пэдагогічнага прынцыпу «вучы дзіця ў яго роднай мове», проці калецтва душ, якое ўносяць гэтыя чужыя нам па духу школы. Аднак што раз часьцей даводзіцца нам чуць, што народ дамагаецца школ сваіх нацыянальных, у каторых-бы дзеці іх вучыліся у сваёй роднай мове і гадаваліся ў духу народным беларускім.

Дзеля прыкладу падаём тут прыгавор Мядзьведзіцкай вол. Слуцкага павету, у каторай жыхары ўсе каталікі і ведама былі пад сільным уплывам палёнізацыі. Прыгавор гэты быў пісаны за часоў нямецкай акупацыі ў Меншчыне, калі польскія школы маглі ў поўнай волі разьвівацца.

«1918 году лістапада 10 дня мы, ніжэйпадпісаныя грамадзяне Мядзьведзіцкай вол., сабраліся у памешканьні Мядзьведзіцкай народнай земскай школы, гдзе пад кіраўніцтвам старасты Фр. Калясінскага, мелі гутарку аб кірунку і стане народнай прасьветы ў нашай ваколіцы. Абгаварываючы гэта пытаньне мы мелі на ўвазе вось што: прыгаворамі сваймі аб адкрыцьці ў нас школ мы прасілі за нашы грошы адкрыць у нас народныя беларускія школы; праўда з выкладам у беларускай і польскай мове, але з тым, каб і расейскі язык выкладаўся як прадмет. У нашых прыгаворах ад вёсак: Мядзьведзічы, Куршынавічы, Лапацічы, Русінавічы, Гайніна гаварылася, што навучаньне належыць да вучыцеля, а кірунак або дух школы бязумоўна належыць да Бацькаўскай Апякунчай Рады, а не да памешчыкаў-палякоў. Не зважаючы на гэта ў нас школы адкрыты чыста польскія, пад кіраўніцтвам «Польскай Рады Земі Мінскей», у школах вучыцелькі ўсе полькі і гадуюць нашых дзяцей у чыста польскім духу, а не ў народным беларускім кірунку. Такім спосабам у нас адкрыты не такія школы, аб адкрыцьці якіх мы прасілі; земскія падаткі, каторыя мы плоцім, ідуць не для народнай прасьветы, а скарэй усяго, для падгатоўкі палітычнай карысьці паном—паляком. Адным з такіх палякоў зьяўляецца памешчык Сіняўскай валасьці Густаў Сьвенціцкі, ён вельмі часта бывае ў нас і заходзячы ў земскія школы нашай валасьці дае настаўленьне вучыцелькам. Шовінізм Сьвенціцкага дайшоў такіх граніц, што ў Мядзьведзіцкай школе прыказываў вучыцельцы зацерці на арытмэтычных і інш табліцах надпісы ў беларускай мове. Пры гэтым вучыцелька Мядзьведзіцкай земскай народнай школы Паўліна Мядзіолко, чыстая беларуска, вельмі часта робіць у сябе ў школе і на вёсках народныя чытаньне-гутаркі для ўзрослых; ядыная з вучэбнага пэрсаналу асоба, ідучая за народам, не спадабалася пану Сьвенціцкаму і ён катэгарычна забараняў ёй (грозячы пальцам) больш такіх гутарак не рабіць.

Позна вечарам 8 лістапада ён прыбыў да настаяцеля Мядзьведзіцкага касьцёла кс. дэ—Вольдо-Хрулевіча, нагаварыў яму грубасьцей, дакараў тым, што ён ня хоча памагаць у арганізацыі польскіх школ (кс. Хрулевіч адкрываў беларускія школы). а як ксёндз запрапанаваў яму ачысьціць кватэру, то ён, Сьвенціцкі, прыняў такі абарот, што ксёндз змушаны быў аставіць сваю кватэру і ісьці на вёску начаваць.

З усяго выжэйсказанага ясна відаць, што мы беларусы каталікі, быўшыя пасынкі Масковіі, знаходзімся пад нежаданай апекай польскіх паноў, а таму аднагалосна прыгаварылі:

Пратэставаць проці апекі польскай Рады і прасіць Слуцкую павятовую Земскую Управу: 1) калі памешчык Сіняўскай валасьці Густаў Сьвеньціцкі запраўды зьяўляецца апякуном школ у Мядзьведзіцкай валасьці, яго з гэтага абавязку асвабадзіць і даць нам права выбару асобы на гэта мейсца; 2) калі ён прысвоіў сабе гэта самавольна, абвясьціць яму праз міліцыю ня бываць больш у нашай валасьці, не ачмучываць наш народ і пацягнуць яго да адказнасьці за самазванства. Сельскі Староста Францішак Калясінскі.

Прысутныя грамадзяне (125 подпісаў).

Дык вось, грамадзяне беларусы ідзіце шляхам Мядзьведзічан і баранецеся ад сілай навязаных чужацкіх школ, дамагайцеся сваей народнай беларускай школы.

П—нка.

# БЕЛАРУСКАЯ ВАЙСКОВАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ.

«Беларуская Вайсковая Арганізацыя» за час свайго быцьця перажыла шмат зьмен. Твораная на сьпех, яна спачатку прыняла элэменты не жаданыя ў кожнай беларускай арганізацыі, дык потым была прымушана адчапіцца ад іх. Спачатку былі выкінены з арганізацыі некалькі чалавек, што хацелі з беларускай вайсковай справы зробіць сваю асабістую справу і выступалі проці Ц. Б. Р. В. і Г. Потым пачалася барацьба ў самай арганізацыі беларускіх афіцэраў нацыяналістаў проці элементу чужога, маскоўскага, каторы ў апошнія часы любіць прыліпаць да ўсякай беларускай справы і шкодзіць ёй сваёй індэфэрэнтнасьцяй і часта варожымі адносінамі. Барацьба з русафіламі, найчасьцей зусім не беларусамі (нат заолёгічна), скончылася на агульным сабраньні Бел. Вайск. Арг. 12 ліпня, на каторым была вынесена ніжэй друкаваная рэзалюцыя і выкінены з Арганізацыі паны маскоўцы і іх прыяцелі.

## Дэклярацыя Беларускае Вайсковае Арганізацыі

паданая Цэнтральнай Радзе Віленшчыны і Горадзеншчыны 12-га ліпня 1919 г.

У вялікі мамэнт калі Беларускі Народ у ліку свайго прадстаўніка ў гэтым краі Цэнтральнае Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны цьвёрда стаячы на грунце незалежнасьці і непадзельнасьці свае Бацькаўшчыны, пастанавіў прыдаць рэальнае выражэньне свае векавое ідэі стварэньня Беларускага Нацыянальнага Войска, мы беларусы-ваякі, запраўдныя сыны свае Бацькаўшчыны, хочам прыйсьці ёй на помач.

Шмат гадоў нашая Бацькаўшчына была пад уціскам. У часе спакою над намі панавалі расейскія цары, якія стараліся зьніштожыць Беларускі Народны рух, абмаскаліць Народ Беларускі. Царскія жандары забівалі лепшых сыноў Беларусі за тое, што яны працавалі дзеля адраджэньня свае Бацькаўшчыны. Яны-ж прымусілі нас прайсьці расейскую школу, каб мы забыліся аб нашай роднай Беларускай мове, і адарвалі нас ад жывога цела Беларусі, яго сялянства. У часе сусьветнае вайны Беларусь была зруйнавана акопамі, бітвамі, сяляне масамі ўцікалі ў Расею. На зьмену расейскім жандаром зьявіліся нямецкія акупанты, каторыя, стварыўшы ў Расеі бальшавізм, разам з маскоўскімі камісарамі разьдзялілі Беларусь, ня слухаючы голасу Народу Беларускага ў асобе яго прадстаўніка, якім быў Усебеларускі Конгрэс у Менску. Заходняя частка Беларусі была Обэр-Остам, а ўсходняя — Савецкай Рэспублікай. У канцы 1918 году нямецкія акупанты, пакідаючы тэрыторыю Беларусі, заместа таго, каб аддаць уладу ў рукі гаспадара гэтага краю, Беларускаму Народу, аддалі яе маскоўскім бальшавіцкім камісарам, якія прынясьлі голад сялянству і каторыя задавілі нацыянальны рух Беларускага Народу. Цяпер у гэты грозны час, калі бальшавікі напружаюць усе сілы, каб удзяржаць у сваіх разбойніцкіх руках Беларусь і калі з усіх бакоў Беларускай Народнай Рэспублікі яшічэ гразіць небясьпэчнасьць, мы беларусы-ваякі, цьвёрда верачы ў канечнае панаваньне справядлівасьці і сьветлую будучыну свае Бацькаўшчыны, адклікаемся з шчырым сэрцам на клік Нашага Народу і ўстаём як адзін чалавек на абарону незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі. Дзеля гэтага мы стварылі Беларускую Вайсковую Арганізацыю, якая мае на мэце аб'яднаньне беларускіх ваякоў у адну вялікую вайсковую сям'ю, каб даць ім той нацыянальны кірунак, якога спыніў іх вяковы ўціск.

Адначасна з тым, што Б. В. А. заварочвае нас да культуры нашага народу, яна йдзе на падмогу правамочнаму прадстаўніку жыхараў гэтага краю Цэнтральнай Радзе Віленшчыны і Горадзеншчыны і аддае ў яе рукі свой патрыятызм і веду дзела, дзеля спаўненьня тэй вялікай падгатаваўчай працы, якая патрэбна пры фармаваньні Беларускай Нацыянальнай Арміі. Б. В. Арганізацыя жадае быць толькі тэхнічным апаратам, які цалком знаходзіцца ў руках Цэнтральнай Рады і перапрацовавае ў гэтым сэнсе статут арганізацыі. З другога боку, мы маем надзею, што Цэнтральная Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны таксама пойдзе нам на сустрэчу і ацэніць нашае патрыатычнае пачуцьцё, нашае шчырае жаданьне і дасьць нам падмогу маральную і фізычную".

Пад дэкларацыяй 36 подпісаў.

няць; пачынаецца казаньне пабеларуску і ўсе гурмам валяць у касьцёл.

Першае казаньне сказаў тут пабеларуску ксёндз Адам Станкевіч, каторы езьдзіў з біскупам, падчас візытацыі. Пасьля гэтага з усіх акалічных парахвій, як толькі бываў фэст, прыяжджала дэлегацыя ад сялян з просьбай сказаць у іх казаньне пабеларусску.

Цяпер у барадзініцкай парахвіі гаворыць казаньне пабеларуску і навучае дзяцей катахізмаў у беларускай мове цяперашні барадзініцкі пробарщч ксёндз Віктор Шутовіч.

Тут у вёсцы Сабалеўшчыне ёсьць беларуская школа.

**Барадзініцкая.**

### Беларуская мова ў праваслаўнай царкве.

У дзень вялікага сьвята сьв Пётры і Паўла, 12 ліпня, ў Вільні ў Траецкай царкве сьвяшчэннік Богдановіч сказаў пропаведзь у беларускай мове.

### ШЧУЧЫН.

Не вясёлыя весткі можам мы вам прыслаць, браты Беларусы. Зьдзек і паняверка ня лепшыя ад часоў царызму запанавалі над усім нашым родным. I няма каму пажаліцца, няма ў каго даходзіць праўды і справядлівасьці. Навет думкамі сваймі нельга падзяліцца з другім, таго і глядзі, як апынешся ў кутузцы, або і горш яшчэ. З першых дзён, як толькі зьявіліся ў нас польскія войскі, пала ахвяра за свае пераконаньне. Селянін з вёскі Мураўёўкі Трукша аддаў сваё жыцьцё маладое пад палкамі легіонаў за ідэю незалежнасьці бацькаўшчыны Беларусі, за тое, што заклікаў народ не паддавацца ў няволю чужынцом з якога-б боку яны не прыхадзілі: з захаду, ці з усходу. Другі, Кароль Мікшэль, за гэта самае змушаны быў пакінуць сваю вёску, каб не дачакацца лёсу свайго таварыша, зважаючы, што жыцьцё і сілы народныя яшчэ будуць патрэбны, калі бацькаўшчына пакліча ўсіх сыноў верных грудзьмі бараніць сваю незалежнасьць.

Зямелькі мала ў нас сялян — вось, што! Агромныя абшары панскай зямлі ляжаць адлогам. Працавітых рук сялянскіх хваціла-бы усю гэту зямлю абрабіць, засеяць, але ня кожнаму даступны варункі: за морг зямлі трэба ў год заплаціць 150 р., ды яшчэ палавіну збору аддаць. Таксама страшэнны вызыск сялян пры падзеле сенакосу—і заплаці, і скасі сабе, і ім, і палову свайго аддай. Рады-бы мы браць у арэнду млыны, смалярні і інш., але спрытныя заўсёды жыды перш за нас хваціліся і усё апынулася ў іх руках. Калі-ж наш народ набярэ больш вяртлівасьці і спрыту?

**Юрка.**

(«Родны Край»).

### ГОРНІЦКАЯ ВОЛАСЬЦЬ.

**Лепшыя за першых.** У нашай валасьці нямаль ад самага Вялікадня пануюць вельмі шчырыя служакі польскага ўраду. Можа нідзе яшчэ так не праявілася іх вялізарная пладавітая праца на грунце грамадзянскім, як у нас—дзе яны зьяўляюцца мацнейшымі за сваіх папярэднікаў.

Іх ўласьці у нас няма граніцаў. Цяжк яны кажуць: «што хочам, тое й робім і ні зашто не адвечаем».

Гэта выдуманая цяпер пагаворка, шчыра без усякіх зменаў праводзіцца імі у жыцьцё: Бо дзе ня ўчуеш, то ўсюды гавораць: «У гэтай вёсцы жандары забралі ў людзей усё купленае ў немцаў: бораны, плугі, дошкі; ў той вёсцы з хлопца сьцягнулі афіцэрскі пояс, а за тое, што спрачуўся, далі панюхаць бізуна (маючы адгаворку, што гэта ўсё «жондовэ», а дзеля таго яны маюць права адбіраць).

У аднэй вёсцы за тое, што не далі малака і яек, пабілі бацьку з сынам і ў прыдатак аводвух пасадзілі ў кутузку. У другой вёсцы на вясельлі, за тое, што не напаілі іх, пачалі страляць з леварвэру у столь і разагналі ўсіх вясельнікаў, а назаўтра маладога з бацькам заклікалі ў валасьць на дапрос. Раз на дарозі набілі жыду ў морду за тое, што ён жыд. Такіх здарэньняў з асабістай іх працы - сколькі хочаш.

Наагул куды не заглянь, усюды відаць што гуляе нагайка, а часам і блісьне леварвэр, куды ляпей, як за старымі парадкамі. Ці можа ад таго, што ў валасьці, заместа аднаго вурадніка цяпер нешта з пяць (яно вядома ў гурці вясялей працаваць); ці гэта так якая-колвечы шляхоцкая прычына, бо жандары ўсе блізкія — як-то у нас кажуць: Зеневіцкая шляхта.

Але ў падзяку за такое сваё дзеяньне ўсюды ўчуеш цяпер навет ад самых шчырых падлыжнікаў „варшаўскага раю": «А няхай яго хвароба возьме і з польскім правам, цяпер горш стала як за рускім; бяруць што спадабаецца, б'юць, сколькі хочуць і чым хочуць, а яшчэ кожны дзень вазі іх, як чарцей якіх. Шак, калі яны доўга пабудуць, то хутка здохнеш.—Каб як хутчэй стала другое права».

Вельмі не падабаецца народу тое, што верныя служакі, ня гледзячы на тое, што увесь народ марнее з голаду, выдумалі нейкі «жонд», да каторага хочуць забіраць ад кожнай трэці сноп пасеву на чужым полі, і трэцюю копку сена тых гаспадароў, каторыя яшчэ не вярнуліся з Расеі.

Цяпер наша валасное праўленьне абярнулася ў нейкі, «склад усякага хламу»—бо што лепшае, то верныя слугі ноччу, то з сёстрамі, то з братамі папераносілі дамоў, а астаўся ўсякі хлам, і чаго толькі там няма:

Бляхаў, пачкаў, абручоў,
Дошчак, вёдраў, таўкачоў,
Крэслаў, ложкаў і сталоў —
Многа розных лахманоў...

(„Родны Край").

---

## У ВІЛЬНІ.

### Княгіня Магдалена Радзівілл.

Вядомая беларуская патрыотка княгіня Магдалена Радзівілл падаравала жыдоўскаму кагалу свой дом ў Новаліпках (у Варшаве), каб гэтым пратэставаць проці жыдоўскіх пагромаў.

### Перасьцярога.

Дзеля розных непраўдзівых вестак аб „Б. В. Ар.", што часамі друкуюцца ў мясцовай рускай газэце, «Беларуская Вайсковая Арганізацыя» просіць нас перасьцерагчы грамадзянства, каб да розных вестак адносіцца з асьцярожнасьцю. «Бел. Вайск. Ар.» дае аб сабе весьці толькі ў беларускіх газэтах.

### Новае выдаваньне емінных карт.

Праўленьне места Вільні наказывае: «Прыгатаваны новыя емінныя карты на срок І. Карты маюць 10 адрэзкаў, абазначаных нумэрамі. Каб дастаць гэныя карты, гаспадары дамоў або іх дамаверы павінны за 3 дні: у чацьвер 17 ліпня, пятніца 18-га і ў суботу 19 дастаць спэцыяныя легітымацыйныя карты, каторыя дастаюцца дарма ў вокругах заяў (мэльдаваньня), што памяшчаюцца пры паліцэйскіх вучастках. Легітымацыі выдаюцца гаспадарамі дамоў або дамаверамі з паказаньнем запэўняючых довадаў. У прыпадках, калі дом ня мае гаспадара або дамавера, права легітымацыі даецца асобам упаўнамочанным на пісьме кватарантамі дому. Дастаўшы легітымацыю гаспадар дому павінен зьвярнуцца ў адпаведнае раённае бюро емінных карт, дзе, падаўшы легітымацыю, пашпарт свой, ды мэльдавальныя кнігі, дастане адпаведную колькасьць емінных карт, каб аддаць кватарантам (жыльцом), каторыя падпісваюцца, што іх дасталі, на асобныя бланках, што выдаюць гаспадары разам з картамі. Карты будуць выдавацца ў гэткім парадку: у панядзелак 21 ліпня тым асобам, што будуць мець легітымацыі з дн. 17 ліпня, у ваўторак 22 ліпня з дн. 18-га і ў сераду 23-га ліпня з дн. 19-га. Незамэльдаваныя ня будуць прыняты пад увагу пры выдаваньні емінных карт.

---



Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.